АКСАМІТНЫ ЖАХ
INTERNATIONAL EDITION
м. Гомель, 2000 рок, чэрвень месяц № 12

# СЛОВО ВИТАЛЬНОЕ

## ЛЮДСТВУ СЛУЖИЛОМУ ПИСАНОЕ ИЗ НАГОДЫ НОВОГОРАДЗКОГО ПОБОЕВИЩА В РОЦЕ ПО НАРОЖДЕНИИ ХРИСТОВОМ 2000 В МЕСЕЦИ ЧЕРВЕНИ ГОМЕЛЯНСКИМ МЕЩАНИНОМ А.С. ИЗ ЛАСКИ БОЖЕЙ ИЗ ДОЗВОЛУ ГОСПОДАРСКОГО

Як славу боярскую словом опети
И каб не збрехать и з рыфмою згоду мети
Збрешу - не миную я кепское доли
Догонить стрела у чистом поли
А як утаю про славныя дзеи
Под ребры воткнути стальныя сулеи
Писати презначен прелесные верши
За то средь сказителей буду найпершы
Вославлю я вас вы мое ягомости
Што шабли войстрыли о вражины кости
Як половцев, немцев посекли нещадно
Тако ж и ордынцев побейте изрядно
Я славу пою вашей зброе и броне
Што панское серцо от згубы бороне
Што бье супостата до кривды-обиды
О войстрыя влочни, о войстрыя дзиды
О крэпкия тарчи, о хуткия стрелы
Ручницы гремучия и самострелы
Вы славы зазнали на марсовым поли
Де ворогу страху достали даволи
А як мое верши и де надрукують
И на Литве мене людство почуеть
Выпьють пива, гарэлки, добре згуляють
Под скрыпки з паненками ладно поскачуть
И у Навагародзким мейсцы пры самом замку
Буде рыцерство витати мою вершаванку.

# «Зь мечам і з галавасечам...»

Дзеля чаго работаеш, дзеля душы альбо дзеля машны? Сабе аднойчы варта задаць гэткае пытаньне і тады стане ясна каму служыш, чалавеча.

Аксамітныя стараюцца арыентаваць сабе на мінуўшчыну і будучыню, думаць аб былым і наступным, а з іх не спагоніш капеечку, як не прадасі сваю традыцыю на базары, як не ўгандлюеш вялікоднай узьнёсласьцю, не разбагацееш на веры і любові. Таму, каб не ставіць свой талент перад выбарам: арол альбо рэшка вольныя творцы скарысталіся формулай эвангельскай: кэсарева - кэсарю, а Божые - Богу (Мф. 22:20). Як сказаў адзін сталяр: «На дзяржаву я работаю да 15.40 па восем гадзінаў пяць дзён на тыдзень, а ўвесь астатні час стараюся рэалізаваць сабе ў галоўным». Гэтае галоўнае ў кожнага сваё, але зьбяруцца людзі, зьвяжуць у адну павесму розныя інтарэсы і глядзіш - нешта атрымліваецца.

Юра Лупіненка на сваёй малагабарытнае кухні плёў як павук павуціньне сваю першую кальчугу, а цяпер цэлая дружына паўстае за ягонай сьпіной. Аксамітны нумар прадстаўляе тэзы дружыннай арганізацыі: самае неабходнае, лаконічнае. Як і ва ўсім, яны сьледуюць традыцыям, таму на словы не надта шчодрыя. Спадзяемся, гэта будзе самы кароткі матар'ял пра «Сьцяг Алега Сьвятаславіча» на нашых аксамітных старонках.

❖ Вайскова-гістарычны клуб **«Сьцяг Алега Сьветаславіча»** з'яўляецца дабраахвотнай непалітычнай арганізацыяй, што аб'ядноўвае людзей, апантаных вывучэньнем гісторыі вайсковай справы нашае дзяржавы.

❖ Клуб названы ў гонар Ноўгарад-Северскага князя, які валодаў Гоміем у другой палове XІІ ст. У 1167-1168 рр. Алег Сьветаславіч Ноўгарад-Северскі разам з іншымі князямі ажыцьцявіў буйнейшую антыпалавецкую кампанію, пасьля чаго Русь каля дваццаці год ня ведала палавецкай агрэсіі.

❖ Сябры клуба, а імі могуць стаць усе неабыякавыя грамадзяне ад шаснаццаці і старэй, вырабляюць паводле гістарычных першакрыніц касьцюмы, даспехі, вайсковы рыштунак, вывучаюць прыёмы валоданьня мечам ды шабляю, ўдзельнічаюць у мерапрыемствах вайсковагістарычнага і тэатралізавана-відовішчнага накірунку: рыцарскіх турнірах, гарадзкіх сьвятах, мастацкіх імпрэзах і г.д.

❖ Клуб не абямяжоўваецца вывучэньнем эпохі Кіеўскай Русі. Дасьледуецца пласт вайскавое культуры з X да XV ст., але менавіта зьвязаны з беларускімі землямі. У мэтах павышэньня свайго прафэсійнага ўзроўню практыкуюцца кантакты з гісторыкамі, археёлагамі, іншымі вайскова-гістарычнымі клубамі.

❖ Мэтаю сваёй дзейнасьці клуб ставіць папулярызацыю сярод грамадства вайсковае гісторыі Беларусі, фармаваньне патрыятычных настрояў, бо сапраўды, патрыётам можна стаць толькі ведаючы слаўнае мінулае сваёй дзяржавы, яе слынных асобаў, самому дакрануцца да тысячагадовай мінуўшчыны, спазнаць як выглядалі далёкія продкі нашы, што насілі, чым ваявалі.

❖ Зараз у клубе 10 чалавек, як хлопцаў, так і дзяўчат. Далучайцеся й вы, калі вашыя погляды супадаюць з усім тут напісаным. Месьцімся мы у Доме культуры Цэнтральнага раёна Гомеля, пакой 1-3.

**Юрась Лупіненка.**

Клуб **«Сьцяг Алега Сьветаславіча»**
х. тэл. 72-58-36 (Юрась)
53-49-26 (Улад)
50-82-93 (Сяргей)

# Археалагічны артыкул з рысункамі

**«Наконец блудные дети вернулись вы к археологии», - менавіта так сустрэў артыкул Якаў Пятровіч Стывенсан. Напісаны праз дзесяць месяцаў пасьля ўзгаданых раскопак 1999 року ён сапраўды ёсьць добрым знакам вяртаньня да ранейшай аксамітнай практыкі, калі зьвяз нашае газэты і археалёгіі быў найбольш трывалым і пасьпяховым.**

**«Капаюць значна хутчэй, чым аксамітныя пішуць свае матэрыялы,» - ў скрусе адзначыў Валерыч маючы ў сваёй шуфлядзе яшчэ адзін археалагічны чарнавік. На яго думку ўся бяда ў гэтай аўтарскай нерухавасьці і прыроджанай гамялецкай інэртнасьці, што «замінае рабіць art-рэвалюцыі».**

**Што ж, у аўтара не адбярэш яго самакрытычнасьці, але пан Валерыч, лепей дапісвайце свае манускрыпты, адбяляйце чарнавікі, прасьвятляйце дэталі і ўсе будзе добра. Змаганьне з інэрцыяй шляхам яе канстатацыі - справа ня вартая і дарэмная.**

Напрыканцы жніўня падскочыла археалагічная актыўнасьць, павысілася зьмесьціва адрыналіну ў крыві, засьвярбела ўнутры нейкая паварозка*, што дагэтуль лагодна спачывала, разгулялася фантазія... Якаў Пятровіч Стывенсан абявязкова адзначыў бы: «Пронеслись перед глазами кадры кинохроники.» А ўсё ад званка да Алега Макушнікава. «Будзем капаць на Пралетарскай,» - мовіла тэлефонная мэмбрана ягоным голасам. І гэта ня проста словы. Трэйці раскопачны сэзон на гэтае вуліцы пасьля працяглага перапынку ў зацішным гарадскім закутку, сярод прыватных гародаў, дзе віюцца кабачковыя вусы і ўзвышаецца «туалет типа сортир», пад сьцяною старасьвецкага будынку рэквізаванага прэзыдэнтскай вертыкальлю нязвыкла акуратная траншэя з чысьценька падрэзанымі броўкамі, тут замест характэрных рабочых корпаюцца ў зямлі маладыя людзі, інтэлігентна работаюць студэнты-гарбары і толькі адзін імпульсіўна сячэ сякерай вузлаватае карэньне шурпатае ігрушы. Ў траншэю гэтую мусяць легчы цеплацэнтральныя трубы: каб зімою службоўцы не акалелі ад холаду ля кампутарных манітораў у кабінетах павінна быць цёпла, а покуль тут шчыруе археалагічная брыгада і трэба прызнацца: нейк недарэчна глядзіцца археа-атрыбутыка ля жоўтай афіцыёзнай сьцяны прычым нядаўна перафарбаванай. Здаецца, ну якія могуць быць знаходкі ля параднага пад'езду із шыльдаю, з міліцыяй на ахове, з дзяржаўнымі «палотнішчамі» ля недагледжаных сотак, што расьлінна арнаментуюць вертыкальную установу?

**(працяг на наступнай старонцы)**

... а вось зірні-ка, светла-шэры слой з дробным россыпам вугольчыкаў, што ляжыць пад сьмецьцем апошняга бязладнага стагодьдзя, зчэсвай яго лёгкай скібачкай, наразай тоненькай лустачкай і чакай калі аб лязо рыдлёўкі шкрабне старая жалезка войстрым сваім бокам. Ну-ка, ну-ка... І тады асьцярожна бярэш штосьці густа абраслае іржою, багавейліва аглядаеш і ня хочацца выпускаць із рук.

рыс. 1



Лірыка лірыкай, а наканечнік стралы заходнеславянскага тыпу (рыс. 1) быў знойдзены менавіта гэтак, у тым самым сьветла-шэрым і тут ужо не да паэзіі, навука адзначае: X-XI стагодьдзе. Можна сказаць сівая даўніна. Трымаеш на далоні сьмерценосны асьцюк якому год з тысячу і думаеш: працяў ен чыесьці грузі, альбо проста ткнуўся ў зямлю пушчаны варожаю рукою, а мо дастаўся ў якасьці трафею разам з каўчаном, зьнятым з забітага ляха? І міжволі прыгадваюцца радкі летапісу, дзе радзімічы прыходзяць з ляшскіх земляў; ці ня ёсьць падцьверджаньнем іхняга паходжаньня гэткі тып наканечнікаў, бытаваўшы і ў Польскім Паморʼі і ў Маравіі. У любым выпадку знаходка радуе сваею вастрынею.

рыс. 2



Побач з наканечнікам з-пад рыдлёўкі выскачыла крэсіва(рыс. 2) - прылада, якая поруч з чалавекам ідзе з глыбокае старажытнасьці, бо з пракувеку ўдарам крэсіва аб крэмень высякалі іскру ўмела здабываючы агонь прычым яшчэ ў нашым стагодьдзі ім актыўна карысталіся не давяраючы запалкам фабрыкі «Везувий».

У гараджаніна і крэсіва і крэмень заўжды ляжалі ў скураное торбачцы на поясе, ля печы каменкі прыкладна гэтак, як цяпер уладкаваліся запалкі на прыпечку альбо ля газавае пліты. Нашыя продкі лоўка здабывалі агонь, а мы зараз узяўшы іхнія прылады доўга бы правошкаліся, пазьбівалі бы ўсе пальцы покуль у нас штосьці задымілася.

З прадзьметаў хатняе гаспадаркі былі знойдзены кавалкі туфавага жорнава на якім у дамовых умовах перамолвалі зерне ў муку, значныя фрагменты кэрамічнага посуду(рыс. 3) і што асабліва радуе - яго доньнія часткі на якіх вадзілася ставілі клеймы майстры-ганчары. Звычайна гэта салярныя сімвалы і крыжы самае размаітае канфігурацыі і гэтым разам калекцыя іх папоўнілася яшчэ пяцьцю ўзорамі.



рыс. 3

рыс. 4



Маленькая бронзавая рыбачка (рыс. 4) на якую спачатку падумалі: блясна, аказалася усе ж адною з падвескаў старажытнага ўпрыгожаньня-амулета (рыс. 5), бытаваўшага на славянскіх землях. Звычайна ён складваўся з чатырох хвігурак-падвесак і сярод іх абавязкова прысутнічалі грабеньчык, конік, ключык а вось астатняя маглі мяняцца: лыжачка, сярпок, ды вось гэтая рыбка. Паўстае пытаньне: чаму ж менавіта такі набор сімавалаў сустракаецца, што азначаюць гэтыя вобразы, сабраныя разам? Можа вызначалі яны занятак гаспадара, а мо ятлялі сабою сакральнае вераваньне абагаўляючае прадзметы якіх часьцей за ўсе краналіся рукі, гэткі рытуальны матэрыялізм.

Зараз сказаць цяжка. Можа і ня тое і ня другое. Але не будзьмо дабівацца ў гэтым тонкасьці, няхай рупяцца дасьледчыкі і навукоўцы. Астаючыся ў большасьці практыкамі вольныя мастакі прадстаўляюць малюнак-рэканструкцыю ўзноўленай падвескі, якую хлопцы са «Сьцягу...» ўжо распачалі вырабляць з каляровых мэталаў і як аптымістычна азваўся адзін знаемы афэрыст, хутка пабачым у шырокім продажы. Іронія ironіяй, але тут нашыя каляіны злучаюцца: чым на таргу набываць тандэнтныя кітайска-польска-турэцкія прычындалы сумнеўнай сінтэтычнай якасьці, мо лепей зьвярнуцца да найбагацённае ювэлірнае спадчыны продкаў нашых. Аднак не варта забывацца, што традыцыя падобных упрыгожваньняў ёсьць язычніцкаю, таму калі вы і выкарыстоўваеце іх у сваім касьцюме не надавайце ім татэмнай функцыі, не чакайце ад іх праяваў звышсілы і памятайце, што абярагаюць не гэтыя абручы і бранзалеты, а анёлы-ахоўнікі.

Заслугоўвае ўвагі і яшчэ адная знаходка: кавалак каменная сякеры (рыс. 6) эпохі бронзы.

Былі такія з адтулінай пасярэдзіне, куды ўстаўляўся дубец і расклініваўся драўляным клінам. Болей на малаток падобная,чым на сякеру, яна выкарыстоўвалася як баявая зброя. Штож гэта азначае? Няўжо ў X-XI стагодьдзях, у той

рыс. 5



**(рэканструкцыя паводле матарʼялаў Багамольнікава)**

час калі ў Эўропе будавалі хрысьціянскія саборы і манастыры на нашых абшарах праломлівалі галовы каменнымі малаткамі? Безумоўна не. Той час, калі выкарыстоўваліся гэткія прылады даўно мінуў і нават для X стагодьдзя стаў глыбокай даўнявечнасьцю, а ў жыльлі тагачаснага гамʼяніна яна зʼявілася з іншаю мэтаю, а калі зʼявілася налічвала ўжо некалькі тысяч гадоў. Рызыкнем пафантазіраваць, пагатоў, што ў археалогіі фантазія значыць нашмат болей чым у медыцыне.

Знайшоў які-небудзь Багун у аўразе, пры беразе Гамiюка, што працякаў недалек ад ягонае сядзібы камянюку, глад-

кую, як калена, правільнае дасканалае формы, адпаліраваную да бляску. Яму і ў галаву не прыходзіць, што гэта вайсковая прылада ягоных дальне-далёкіх папярэднікаў, насяляўшых навакольныя берагі тысячагодьдзі тры таму і толькі вучыўшыхся здабываць першыя ўраджаі, прыручаць дзікіх жывелаў, але калі не было ані гэтых вежаў з гароднямі, ані сядзібы, што ўгрунтаваліся спаміж глыбезнымі ярамі-аўрагамі. Ня ведалі тыя даўнія плямены жалеза і агонь здабывалі не тым самым крэсівам, а церлі дрэвам па дрэве; затое да дасканаласьці давялі майстэрства апрацоўкі каменьня, што быў асноўным матар'ялам іхняга часу. У вітрыне гарадзкога музэю ёсьць добрая нізка такіх сякераў. Ї цяпер дзівяць нас умеласную акуратнаю работаю, так што глядзіш - твор мастацтва, ня інакш. Як жа ўспрымае сваю находку Багун? Вядома, не як археалагічны здабытак. Хутчэй за ўсё гэта перуновы стрэлы-маланкі якімі ён лупасіць бедную зямельку ператвараюцца ў каменныя джалы. Альбо гэта зубы выносістых волатаў што насялялі навакольле векапомнымі часінамі? А мо кіпцюры чароўных шыбельных** цмакоў? А мо...? Што б там ня было, Багун валачэ гэты кудмень*** дахаты і вось што вырашае: каб у сябе нездаляшчым суглобістым развіць хоць драбніцу тых супер-якасьцяў уласцівых суворым тытанам трэба спажыць хоць часьцінку іхняе грознае плоці. На шыю яго не пачэпіш, бо гулька занадта цяжкая, а таму ўнутранае скарыстаньне ўяўляецца самым выгодным варыянтам. Адзначым, што нам у рукі трапіла толькі палавіна сякеры, дзе другая частка высьветліць ня ўдалося, мо наш міфічны герой падзяліўся з кім-небудзь, а мо на штонебудзь выменяў, але тая, што ёсьць, захоўвае на сваёй дзюбцы сьляды адшчэпаў, то добра відаць на малюнку. Ад камню адбівалі аскепкі ды пераціраючы дасыпалі ў кашу. Ўзгадалі чытаную ў дзяцінстве казку пра кемлівага салдата і скваліпную гаспадыню? «Каша з тапара» аказваецца не плён чыстай фантазіі, а водгульле рэальнага сюжэта, прычым не далекага заморскага, а сама-самага тутэйшага.

Што ж наш Багун? Ці падвышаецца ягоны тонус, ці мацнее драмучая радзіміцкая жыла? Сёрбае свой крупянік, храбусьціць цёртая парода на зубах, а дужасьці ані большае. Ї вось разам трэсьне язычніцкая упартасьць (ці упёртасьць. Рэд.) тады выходзіць Багунішча на свой біты дварок, бярэ камянюку ў белу ручаньку і шпурляе яе на край зямлі - за суседзкі тын. Вось гэтак і знаходзім мы правобраз сёньняшніх вітамінізаваных дадаткаў, альбо лепей сказаць мінэральных. Не абавязкова ўсе разьвівалася па такім сцэнары, але прапанаваны вам, шаноўныя вы нашы, ёсьць цалкам вераемным і, галоўнае, навукова падцьверджаным.

Што ж было галоўным вынікам усяго леташняга землекапальніцтва? Няўжо ўсё зьвялося да смакаваньня паасобных находак? Бязумоўна, з фрагментаў складаецца асноўная карціна, а яна як мазаіка папаўняецца новымі кавалачкамі смальты. Калі гаварыць аб кожным паасобна, нечага выбітнага (сэнсацыйнага) яны не прынесьлі, да і не чакалася ад вузкай траншэі вялікіх адкрыцьцяў, але прысутнасьць тут слою X-XIII ст. ўжо ёсьць радасным фактам; наяўнасьць рэшткаў жылых пабудоў з тыповым хатнім начыньнем пашырае тэрыторыю старажытнага Гомія. Так, што карціна вымалёўваецца займальная. Раскоп падцьвердзіў, што горад гэтым участкам не скончаўся і займаў значную плошчу яшчэ задоўга да свайго з'яўленьня на старонках летапісаў. Старажытна-рускі слой абрываецца на сярэдзіне XIII ст. і за ім самы выразны культурны пласт нарастае толькі ў стагодьдзі XIX. Гэта сьведчыць ад значным перапынку ў росьце горада выкліканым вялікаю мангола-татарскаю навалаю 1239 року, калі Гомій быў дашчэнту вынішчаны разам з ягонымі жыхарамі, а гэтаксама і памежным становішчам места, якое ані спрыяла яго эканамічнаму і дэмаграфічнаму ўзьлёту.

Але пан Макушнікаў лічыць, што жыхары пакінулі гэтае прадмесьце яшчэ да той трагічнай падзеі і надарылася гэта з іншае нагоды. Напачатку XIII ст. ў разрослым горадзе праводзілася грандыёзнае будаўніцтва новага вакольнага пояса абароны. Працяглы роў із валам завершаным бервяною сьцяною распачаўшыся сучасным Кіеўскім спускам дугою адразаў вакольны горад і выходзіў у адзін з рукавоў аўрага Гамікок, утвараючы замкнены пояс гарадзкіх умацаваньняў, першую лінію абароны. Ня дзіўна, што многія пасадзкія людзі, чые хаціны апынуліся па-за ўмацаваньнямі з цягам часу перабіраліся пад ахову гарадзкіх сьценаў, выбраўшы больш бясьпечны варыянт пражываньня. Той жа ўчастак пасадзкай тэрыторыі, відаць адзін з самых аддаленых паступова занятаў, стаўшыся, як гэта цяпер кажуць, неперспектыўным.

«Кто знает мой дорогой друг, кто знает» - прамовіў аднойчы Якаў Пятровіч Стывенсан і разьвёў рукамі. Час падцьвердзіць гіпотэзы, абвергне пастуляты. Але каб сталася гэта, не аднойчы прыйдзецца ўзяць у рукі рыдлёўку і выйсьці на археалагічную сьцяжыну і грэбсьці кубаметры зямлі перш чым дастаць загадкавых таямнічых пластоў, дзе знойдуцца адказы на нашыя пытаньні, а мо й новыя запаляшчыя загадкі. Таму ізноў чакаю, калі тэлефонная мэмбрана прамовіць голасам Алега Макушнікава: «Будзем капаць на Пралетарскай...»

**Валерыч**

* паваразка - вяроўка, гужавіна (у тэксьце «струна»)
** шыбельны - свавольны, гарэзьлівы
*** кудмень - амулет



рыс. 6

## Бурымкаўская рэптылія - гіпотэзы і факты



Ізноў на аксамітных старонках разгарэлася палеміка на цмачыную тэматыку - знаходка кавалка касьцяное пласьціны з выявай цмака ўздымае шраг пытаньняў - а ці цмок гэта? Кола беліцкіх дасьледчыкаў да апошняй кропкі адстойвае сваі пазіцыі, цытуюць першакрыніцы, аргументуюць аналёгіямі, п'юць віно.
**Чытайце ў адным з наступных нумароў.**

© Орыгінальна idea: Творчая кампанія вольных мастакоў «Магілка».
Рэдактар: Т.Буль-Бутэліч; Макетоўшчык: Алеська Марцін; Мастак: А.Скідан;
У нумары выкарыстаны віньеткі доктара Францішка Скарыны з Полацку;
Рэдакцыя надта ж удзячна МКС «Талака» за супрацоўніцтва і падтрымку.

©ТКВМ «МАГІЛКА»
чэрвень 2000

Шукайце нас у сусьветнай павуціне па адрэсе http://tsmoki.narod.ru
E-mail: button@aport.ru; Нумар сьвярстаны пад Magic Mystery Tour ©
Падпісны тэлефон 48-89-90 (Ірэна), і гэтаксама 48-59-14 (Андрусь)
Папера афсэтная. Друк трафарэтны. Наклад 200 ас.